АДНА ЗЯМЛЯ

Маладзечна, Вілейка, Смаргонь, Ашмяны, Валожын, Мядзел, Астравец, Мінск

# Рэгіянальная газета

24 – 30 КРАСАВІКА 1998 ГОДА
ІНФАРМАЦЫЙНА-РЭКЛАМНАЕ ВЫДАННЕ
ЦАНА 3000 РУБЛЁЎ
№17 (157)

ВІЛЕЙКА

## Інтэлігенцыя пайшла ў народ

Маладзёжную палітыку на месцах закліканыя праводзіць саветы па справах моладзі, што створаны пры сельвыканкомах. У гэтыя грамадскія структуры ўваходзіць, у асноўным, інтэлігенцыя і працуе (як звычайна) на грамадскіх пачатках.

Кіраўнік савета Альковіцкага сельвыканкома настаўніца Хадасоўскай базавай школы **Наталля Язінская** прапанавала правесці агляд-конкурс на лепшае маладзёжнае падвор'е. Конкурсу надалі статус раённага.

*Аддзел інфармацыі.*

ВАЛОЖЫН

## Камеры не пустуюць

Вешанкі, як і піва, неспецыфічны прадукт для мясцовага льнокамбіната. Але яны каля года, як прыжыліся на прадпрыемстве і даюць ураджай. Пад вырошчванне экалагічна чыстых грыбоў тут пераабсталявалі тры камеры (якія апошнім часам пуставалі) для замочвання льносаломкі.

Ад закладкі да рэалізацыі праходзіць прыкладна тры тыдні. Сёлета прадалі за 200 кг вешанак. Асноўны спажывец - аб'яднанне грамадскага харчавання. Для сваіх работнікаў з першага ўраджаю па 2 кг выдавалі бясплатна, а далей па льготнай цане.

*Наталя ШТЭЙНЕР.*

СМАРГОНЬ

## Міліцыя ахоўвае прыроду

У лясгасе створана новае падраздзяленне - экалагічны аддзел. Працуюць у ім тры чалавекі - узначальвае службу старшы сяржант міліцыі **Вячаслаў Пакіруха**, а дапамагаюць майстры лясгаса **Віталь Южык** і **Андрэй Пятроўскі**.

У абавязкі аддзела ўваходзіць, у прыватнасці, кантроль за чысцінёй у лясах, барацьба з браканьерамі і самагоншчыкамі, якія развярнулі сваю вытворчасць у лясных масівах. Ёсць і іншыя задачы.

Кіраўніцтва лясгаса на "эколагаў" не скардзіцца, бо за непрацяглы час работы бюджэт пасля спагнаных з парушальнікаў штрафаў папоўніўся не на адзін мільён рублёў.

*Альберт КУМІШЧА.*

ВІЛЕЙКА

## Ахвяры

На суботніку работнікі МПМК-185 добраўпарадкавалі сваю тэрыторыю. Пацпалілі смецце, сям-там сухую траву.

Неўзабаве полымя перакінулася на драўляную наземную частку бамбасховішча. Дрэва згарэла за пару хвілін. Пажарныя не далі агню перакінуцца на іншыя будыніны, прачасалі бамбасховішча ў пошуках бамжоў і ахвяраў прапаганды ядзернай вайны.

*Алена ІРЫСАВА.*

ВАЛОЖЫН

## Заваляць ялавічынай

Утаймаваць лейкоз дойнага статка ўдалося мясцовай ветслужбе. У раёне праверана 90% калгасна-саўгасных кароў. 67 галоў былі інфіцыраванымі.

Распаўсюджванне хваробы своечасова спынілі. Усе хворыя ў хуткім часе паедуць на мясакамбінат.

*Ларыса КАРНЕЕВА.*

ЗОНА НЕБЯСПЕКІ

### Будучыня Дома культуры ў Маладзечне невядомая

# Танней узарваць!

***МАЛАДЗЕЧНА. На сесіі гарсавета кіраўнік гарвыканкома Станіслаў Татарыновіч сказаў: "Калі сталіца не будзе фінансаваць далейшае будаўніцтва Дома культуры - падаю ў адстаўку". ДК пачаў узводзіцца яшчэ 10 год таму. Сёння на завяршэнне работ патрабуюцца сотні мільярдаў. Кансервацыя – таксама не выйсце. Толькі каб узяць будынак пад часовы дах.***



Страсці разгарэліся пасля таго, як начальнік фінансавага ўпраўлення аблвыканкома **Павел Зайцаў** папракнуў маладзечанцаў нямэтазгоднасцю такога праекта. Бо, калі скласці цяперашнія тры бюджэты вобласці, невядома яшчэ, ці хопіць сумы на заканчэнне будаўніцтва. Пакуль аблвыканком фінансаваць адмаўляецца. Праўда, тамтэйшыя чыноўнікі склалі хадайніцтва прэзідэнту, каб маладзечанскі даўгабуд уключылі ў рэспубліканскую праграму, курыруе якую сам прэзідэнт. Стаяць яшчэ недабудаванаму ДК гадоў 10. Пакрыху нешта б і рабілася. Справа ў тым, што запланаваны культурны цэнтр стаў небяспечны, разбураецца. Эксперты налічылі ў ім 69 будаўнічых блокаў з рознымі дэфектамі. Аб'ект стаіць пад адкрытым небам доўгі час. Таму яго спачатку трэба падмацоўваць, а потым ужо будаваць. Нават самі будаўнікі ўваходзяць пад дах ДК з дрыжыкамі. У нас жа заўсёды так: пакуль гром не грымне - мужык не перахрысціцца.

Дэпутат **Віктар Шэлег** заклапочаны, што гэты год пройдзе марна. Эксперты забаранілі праводзіць работы зімой. І каб летам будаваць, грошы павінны ўжо быць. А іх няма.

Загадчыца аддзела культуры гарвыканкома **Надзея Сідарэнка** з гэтым болем ездзіла спецыяльна да старшыні аблвыканкома **Пятра Пётуха.**

Дэпутат **Уладзімір Клешч** прапанаваў не спадзявацца на "вярхі", а шукаць сродкі ў горадзе.

*Заканчэнне на 2—й ст.*

ВІЛЕЙКА

## Зноў без гарачай вады

***У велікодную ноч у кранах вілейчан знікла гарачая вада. Ці не паўторыцца сітуацыя ранейшых год, калі гарачая вада знікала ад ацяпляльнага сезона да ацяпляльнага?***

З такім пытаннем мы звярнуліся ў вілейскае ГВА ЖКГ да яго начальніка **Аляксея АРЭНДАРА**. Аляксей Мікалаевіч пераадрасаваў пытанне іжынеру па цеплавой гаспадарцы **Ларысе ВАЛАДКЕВІЧ**, якая растлумачыла, што вытворчае аб'яднанне толькі перапрадае цяпло спажыўцам, купляючы яго ў энергетыкаў "Зеніта".

Галоўны энергетык "Зеніта" **Васіль МАНЧАНКА** паведаміў, што вада яшчэ з'явіцца **з 25 красавіка да 9 мая**, а затым цеплавая гаспадарка будзе закрытая на рамонт. Хутчэй за ўсё, сапраўды, гарачай вады не будзе да наступнага ацяпляльнага сезона.

– "Зеніту", як гэта ні дзіўна можа падацца чытачу, выгадна, каб цёплая вада была ў кранах гараджан. Гэта таксама тавар. Але выгадна пры ўмове своечасовай аплаты спажыўцамі. А як людзі цяпер могуць аплачваць, самі ведаеце...,— сказаў на заканчэнне Васіль Сяргеевіч.

*Мікола ГАЙДУК.*

ФОТАМАДЭЛЬ РЭГІЁНА



Прывітанне! Мяне завуць **Алеся**. Жыву ў Маладзечне. Мне 17 год, рост 168, вага 47 кг. Захапляюся музыкай, танцамі. Вольны час праводжу ў коле сяброў.

ФОТА СЯРГЕЯ ТАРЫМЫ

ДЗІКУНСТВА

# Таня была без дакументаў. І гэта ледзь не каштавала ёй жыцця

***МАЛАДЗЕЧНА. 8 красавіка 13-гадовая Таня Семашкевіч вярталася са школы. У 17.30 дзяўчыну, якая ехала без білета, затрымалі кантралёры ў аўтобусе №11. Яе перасадзілі ва УАЗ з прадстаўнікамі міліцыі. У дзяўчынкі цяжкая форма цукровага дыябету. На руках - ксеракопія пасведчання інваліда (пасведчанне дае права на бясплатны праезд), праўда, не завераная натарыяльна. Таня двойчы губляла арыгінал. Таму той ляжыць дома.***

Пра "арышт" дачкі **Тамары Семашкевіч** паведамілі сяброўкі Тані. Маці прыбегла да ПТВ-21, дзе стаяў аўтобус з міліцыянерамі і затрыманай. Прынесла арыгінал пасведчання. У 18-00 дзяўчынцы па графіку трэба было ўводзіць інсулін. Ніякія довады жанчыны не дзейнічалі. Яна папрасіла скласці пратакол, але ў адказ пачула, што дачку павязуць у міліцыю. Дзіцяці станавілася ўсё горш. Маці пабегла да знаёмых пазычаць 125 тысяч. Абедзве былі дома толькі а 20-й гадзіне. Абвастрэнне хваробы, нервовы зрыў, праступа (на той час ішоў дождж), якая перарасла ў бранхіт, - такі букет атрымала дзяўчо з-за хвіліны падарожжа ў аўтобусе.


РЭСПУБЛІКА БЕЛАРУСЬ
ПАСВЕДЧАННЕ ІНВАЛІДА
Серыя 03 № 006734


АВТОТРАНС

У гарсавет на імя старшыні яго **Наталлі Бялковай** Тамара Семашкевіч падала заяву, дзе расказвае пра выпадак. Да заявы з просьбай разабрацца Тамара Семашкевіч прымацавала ксеракопіі пасведчання інваліда і карэньчык штрафнога квітка *(на здымках)*.

Да адказнасці за гэтае дзікунства ніхто не прыцягнуты.

*Васіль САВІЦКІ.*

СТАРЫ АЛЬБОМ



1939 год. Выпускнікі Смаргонскай гандлёвай школы. Якой надзеяй свецяцца вочы юнакоў і дзяўчат! Наперадзе шырокая дарога ў самастойнае жыццё, планы, надзеі. Толькі не ўсім надзеям наканавана было спраўдзіцца. Вайна, якая пачалася ў той самы год, ўнесла свае праўкі ў складзеныя людзьмі планы. Хтосьці не перажыў яе, хтосьці апынуўся далёка за межамі Беларусі. Пётр Бібік (у першым радзе другі справа) ўжо ў савецкія часы вучыўся ў маладзечанскім настаўніцкім, а затым– Гродзенскім педагагічным інстытутах, стаў настаўнікам роднай мовы і літаратуры. Цяпер Пётр Уладзіслававіч, паважаны настаўнік–пенсіянер, жыве ў Смаргоні.

ФОТА З АЛЬБОМА ПЯТРА БІБІКА.

## Кураняты табака

ВІЛЕЙКА. Увечары загарэўся хлеў пяцікватэрнага жылога дома ў пасёлку Партызанскім.

Згарэў дах хлявоў усіх жыльцоў. Загінулі 32 куркі.

*Алена ІРЫСАВА.*

## У бар па гарбату

ВАЛОЖЫН. Тройчы на тыдзень вучні Падбярэзскай СШ ідуць у бар. Праўда, не ў забаўляльную ўстанову, а ў фіта-бар "Зялёная аптэка". На добрую справу знайшлося ў школе памяшканне. А лекавую сыравіну збіраюць самі вучні. Частка дзяцей жыве на забруджанай тэрыторыі і вітамінізаваны чай іх, безумоўна, падмацоўвае.

*Наталля ШТЭЙНЕР.*

## Асацыяцыя шматдзетных маці

СМАРГОНЬ. На Смаргоншчыне жывуць 748 шматдзетных сем'яў. І ў кожнай свае праблемы і клопаты.

Гэта не ў апошнюю чаргу паспрыяла арганізацыі аддзелам сацыяльнай абароны мясцовага выканкома сустрэчы. На ёй кожная маці магла распавядаць пра тую ці іншую праблему, узняць самыя розныя пытанні.

Прыязджала на сустрэчу работнік аддзела сям'і і гендэрных праблемаў Міністэрства сацыяльнай абароны **Святлана Навумчык**. Цяпер справа за дапамогай шматдзетным з боку дзяржавы.

*Аддзел інфармацыі.*

ШКОЛА

# Мы ўсё прыдумалі з галавы

***Пакуль у Міністэрстве адукацыі рыхтуюць школьную рэформу, настаўнікі школы-інтэрната распрацавалі сваю праграму навучання.***

ВІЛЕЙКА. У нармальнай дзяржаве **Маргарыта Альфер, Ала Сафонава** забяспечылі б сябе, напэўна, на ўсё жыццё. У нас жа іх праграма па вывучэнні беларускай мовы дзецьмі з цяжкімі парушэннямі маўлення ацэненая ў чатыры мільёны кожнай распрацоўшчыцы. Высока адзначаны Міністэрствам, выдадзеныя на добрай паперы, беларускія буквар для першакласнікаў, дапаможнік для 2 класа, спецыяльныя сшыткі прапісаў, альбом для штрыхавання разышліся па спецшколах рэспублікі. Бо імі карыстаюцца і дзеці з затрымкамі псіхічнага развіцця.

У школе-інтэрнаце ёсць першакі, якія алоўка не бачылі, вымаўляюць толькі адзін-два склады - "бі-бі", "тот". Самастойна не могуць намаляваць трохвугольнік. Для іх патрэбная спецыяльная моўная праграма. Калісьці карысталіся расійскай. А перайшлі на беларускую мову (дзецям даецца яна лягчэй) - аказаліся "ля разбітых начовак".

Альфер і Сафонава разам узяліся за справу. Тое, што пісалі, правяралі на практыцы. У выніку рукапісны буквар (да друкавання) меў 180 аркушаў. Літары, сказы, тэксты падмацоўваліся малюнкамі, якія настаўнікі аднекуль выразалі, клеілі.

Буквар пачынаецца з вывучэння гукаў. Кожнаму галоснаму адпавядаюць геаметрычныя фігуры. Гуку "і" - чатырохвугольнік, бо менавіта так трэба складаць вусны, каб яго вымавіць. Прапісы пачынаюцца з кропачак, рысачак. Іх трэба абвесці. Далей усё ўскладняецца - рыбкі, зайчыкі.

Маргарыта Альфер і Ала Сафонава - карэнныя вілейчанкі. У іх амаль аднолькавы прафесійны лёс: педвучылішча, ВНУ, завочна ў інстытуце на факультэце дэфекталогіі. Маргарыта Віктараўна 20 гадоў у спецшколе, Ала Пятроўна - 17. Яны тут настаўнікі і маці. Да каго пойдзе скардзіцца альбо раіцца маленькі чалавек, як не да самага блізкага? А з 15 вучняў у класе Альфер - 8 сірот.

Літары дзеці не толькі бачаць, але і адчуваюць. "А", "Б", "В" і гэтак далей выразаюць яны з наждачнай паперы і па рабочым баку водзяць пальцамі. А казачных мядзведзяў малююць з дапамогай трафарэтаў. Пакуль. Запушчаныя дзіця з дапамогай спецыяльных методык, праграм даводзіцца да звычайнага класа масавай школы.

Ну, а калі благія гены усё ж бяруць верх і метадыкі бездапаможныя - горкія хвіліны ў жыцці дарослых і дзяцей. Ала Пятроўна ніколі не забудзе, як везла дзіця у спецшколу Валожына. Ужо там, на цэнтральнай плошчы, хлопчык упаў на калені, абняў ногі настаўніцы і плакаў у голас.

*Васіль САВІЦКІ.*

КУЛЬТУРА

## "Якія харошыя выраслі дзеці"

СМАРГОНЬ. Гэтыя вершаваныя радкі прыходзілі на памяць падчас нядаўняга канцэрта ў СШ №6. Актавая зала не магла размясціць усіх жадаючых і не аднойчы чувыць было ўсхваляванае "брава".

Многія са школьных "зорак" маглі б выступаць і на вялікай сцэне: спявачка з 9 "А" **Вікторыя Сямёнава**, вакальны дуэт **Надзея Брэхава і Андрэй Бягун**, дуэт баяністаў - брат і сястра **Кулішы** і танцавальны дуэт - брат і сястра **Арлоўскія** з 6 "А".

Шквалам апладысментаў сустракалі гледачы кожнае выступленне танцавальнай студыі "Натхненне" пад кіраўніцтвам **Валянціны Гаўрушковай** (на абласным конкурсе студыя была трэцяй, прапусціла наперад толькі харэаграфічныя школы).

Цёпла ўспрынялі песні ў выкананні вакальнай групы настаўнікаў. Пачынаўся канцэрт з выканання песні на вершы настаўніцы **Тацяны Матчэль**. У адным хоры спявалі і дзеці, і педагогі.

У фае школы дэманстраваліся пано з саломкі, вышыўкі, вырабы з дрэва і з металу, зробленыя таленавітымі дзецьмі.

*Ала СТРАШЫНСКАЯ.*

## Чарнобыльскім шляхам

ВІЛЕЙКА. Артыстычная брыгада ў складзе **Эдуарда Зарыцкага, Віктара Стральчэні**, ансамбля танца **"Белая Русь"**, фальклорнага **гурта "Янка", Стэлы, Валерыя Скаражонка** (кіраўнік - загадчык аддзела культуры пры Дзяржкамітэце па справах моладзі **Кацярына Копелева**) у рамках акцыі "Чарнобыльскі шлях" наведвала ў першай палове красавіка гарады і вёскі Гомельскай, Магілёўскай, Брэсцкай, Ровенскай, Жытомірскай абласцей.

"Справа высакародная, прыём вельмі цёплы, гледачы задаволены, бо артысты ў мясцінах "чарнобыльскай зоны" - госці рэдкія" - вось такі водгук у Валерыя Скаражонка, кіраўніка тэатра песні "Землякі".

## Фестываль працягваецца

АШМЯНЫ. Мінулы тыдзень быў багаты на раённыя агляды самадзейнай творчасці: дзіцячых калектываў школ раёна, танцавальных калектываў і чытальнікаў.

А па выніках раней праведзенага агляду народных абрадаў "Кракоўскі каравай" атрымаў ганаровую магчымасць запісацца для тэлеперадачы "Запрашаем на вячоркі". Над "Караваем" працавалі: тэкст **Ганны Давідовіч**, музычная апрацоўка **Марыны Варановіч**, выканаўца - ансамбль народнай песні "Жытніца" Кракоўскага Дома культуры (кіраўнік **Іван Барысенка**).

Сёння ў конкурснай праграме КВЗ сустракаюцца каманды Ашмянскага і Астравецкага раёнаў. Ініцыятары пробы творчых здольнасцяў - мясцовы саюз моладзі і раённыя культработнікі.

З прэм'ернай канцэртнай праграмай на сцэне раённага Дома культуры 18 красавіка выступаў цыганскі ансамбль "Джана Рома" (кіраўнік **Алег Дыман**).

## Чакаецца прэм'ера

МАЛАДЗЕЧНА. У Мінскім абласным тэатры лялек "Батлейка" ідуць рэпетыцыі спектакля "Пакінуты ўсімі" па казцы Г. Х. Андэрсена "Брыдкае качаня". Рэжысёр - вядомы ў тэатральных колах Аляксей Ляляўскі.

Калектыў тэатра спадзяецца, што новая пастаноўка стане падзеяй у творчым жыцці тэатра, зойме пачэснае месца ў ліку лепшых тэатральных знаходак рэспублікі.

На чацвер, 23 красавіка, прызначаная творчая сустрэча работнікаў культустаноў Маладзечанскага і Валожынскага раёнаў па пытаннях развіцця культасветработы, народнай творчасці. Сустрэча адбывалася ў Валожыне.

*Тэрэса ВАСІЛЬЕВА.*

## Будучыня Дома культуры невядомая

Заканчэнне. Пачатак на 1–й ст.





*Дом культуры браўся дабудаваць Генадзь КАРПЕНКА (злева). Да яго пераемніка ў крэсле кіраўніка выканкома Станіслава ТАТАРЫНОВІЧА (справа) перайшла і адна з найвялікшых праблемаў – Дом культуры.*

Старшыня гарсавета **Наталля Бялкова** заклікала звярнуцца дэлегацыяй да прэзідэнта.

Кропку паставіў **Станіслаў Татарыновіч**. З яго прапановай згадзіліся ўсе - пасля 9 мая сабрацца на пазачарговую сесію. Запрасіць рэспубліканскае тэлебачанне, прадстаўнікоў газет і, такім чынам, "дабіваць" гэтае пытанне.

Між дэпутатамі гарсавета прагучала: калі ў хуткім часе пытанне з будаўніцтвам не вырашыцца, нічога не застанецца, як узарваць, а пляцоўку расчысціць. Танней абыдзецца і пазбавімся небяспекі для здароўя.

Маладзечна сёння з'яўляецца адзіным горадам у вобласці без свайго Дома культуры.

*Васіль САВІЦКІ,*

*фота Сяргея Капылова і з архіва рэдакцыі*

## Вядучы без эфіра. Пакуль...

***ВІЛЕЙКА. Юрый Круглік за два дні да васемнаццацігоддзя стаў прызнаным тэлевядучым. Праўда, пакуль без эфіру на TV. На рэспубліканскім тэлефестывалі "Зорная ростань" Юрый стаў лаўрэатам (найвышэйшае дасягненне за 4-гадовую гісторыю фестывалю).***



Летась Круглік не прайшоў адборачны тур. А сёлета экзамены здаваў на "выдатна" - артыстаў на сцэне "раскручваў" імгненна, выведваючы іх патаемныя думкі, імправізаваў. Пасля праслухоўвання на цэнтральным тэлебачанні (І тур), Юрый перамог у Баранавічах на Брэсцка-Мінскім туры. І паўднёва-заходнюю частку краіны прадстаўляў у Гродне на фінале. Там "абставіў" сваіх больш сталых, тытулаваных канкурэнтаў (напрыклад, удзельніцу "Славянскага базару"). Член журы загадчык кафедры Універсітэта культуры **Уладзімір Вугольнік** запрасіў пераможцу да сябе, на факультэт размоўнага жанру.

Юрый з Маладзечна. Пасля 9 класаў СШ №12 пайшоў у Вілейскае ПТВ-48 набываць спецыяльнасць рэзчыка па дрэве. Там знайшоў духоўнага бацьку - мастацкага кіраўніка тэатра эстраднай песні "Землякі" **Валерыя Скаражонка**. Разам ездзілі ў сталіцу, кансультаваліся і вучыліся ў **Аліны Ястраб, Алены Спірыдовіч**. Юрый вёў канцэрты "Земляскоў". Як гаворыць, набіваў руку.

Пачыналася ўсё з комікгурта "Краскі-шоу" пры вучылішчы. Удзельнікі весялілі публіку рэпрызамі, парадзіруючы поп-зорак.

- Зала цёпла ўспрымае пародыі на Леніна, Брэжнева, Гарбачова, - гаворыць Юрый. - А я люблю вершы Эдуарда Асадава, многія з іх чытаю са сцэны. Напрыклад, верш "Аптэка" рознымі галасамі - урача і пацыента. З тэлевядучых выдзяляю Бярэзіна ("Песня года"). Нешта падабаецца ў **Якубовіча, Нікалаева, Дарэнкі**. Але імкнуся знайсці свой вобраз.

*Васіль САВІЦКІ.*

"РГ" віншуе Юрыя з 18-годдзем. І спадзяецца, што запаленая зорачка на творчым небасхіле будзе гарэць усё ярчэй.

САПРАЎДНАЯ АМЕРЫКА

# Welcome to Iowa

*Праціг. Пачатак у №№ 8-16.*

## Шлях у неба

***У Дэ Мойне існуе ўнікальная сістэма skywalks - нябесных пераходаў. Паколькі горад складаецца, як звычайна, з дзелавой часткі - downtown і "спальных" кварталаў з месцамі адпачынку, то рашэнне, здавалася б, напрошвалася само сабою. Яно і нарадзілася тут (аўтар ідэі - Bob Mckle), але прыжылося пакуль усяго ў трох гарадах ЗША.***

Дзелавыя будынкі ў цэнтры злучаныя паміж сабою сістэмай паветраных пераходаў. З пераходаў у будынку трапляеш не ў абшарпаны калідор, а ў прыгожы прасторны хол, паабапал якога - шматлікія крамы, рэстаранчыкі. Прычым падобнае можа размяшчацца не на адным, а на двух-трох, ці нават пяці паверхах, куды трапляеш на эскалатары. Тут жа часта стаяць зручныя лаўкі для адпачынку, цякуць сапраўдныя "арыкі", стаяць вялікія пальмы.

Такім чынам, можна (што многія і робяць) ад раніцы ў лёгкай кашулі (зімою) сесці ў цёплым гаражы ў машыну, прыехаць са свайго дома ў прыгарадзе на работу ў офіс, паставіць машыну на трэці ці пяты паверх платнай стаянкі, а затым па цёплых калідорах прайсці на рабочае месца. Увечары - адваротны працэс.

***Дзмітрый ХАРЫТОНАЎ.***



Так выглядае пераход з будынка ў будынак.




Нярэдкія ў пераходах эскалатары — нібы ў нашым метро.



Невялічкі рэстаранчык, якіх шмат у "нябесных пераходах".

ФОТА АЎТАРА.

БАЗАРНЫ ДЗЕНЬ

**МАЛАДЗЕЧНА.** Цэны на прадукты харчавання ў сераду на рынку:

| ПРАДУКТЫ | | ЦАНА (ТЫС. РУБ.) 15.04 | ЦАНА (ТЫС. РУБ.) 22.04 |
|---|---|---|---|
| Курыныя кумпячкі | 1 кг | 82,6 | **адсутн.** |
| Кілбаса с/вэндж. | 1 кг | 260 | **275** |
| Сасіскі свіныя | 1 кг | 80,9 | **76,4** |
| Селядзец салёны | 1 кг | 40 | **44,7** |
| Рыс | 1 кг | 28 | **23,1** |
| Цукар | 1 кг | 24,2 | **адсутн.** |
| Грэчка | 1 кг | 30 | **28,5** |
| Алей | 1 л | 57 | **58** |
| Яйкі курыныя | 1 дзес. | 25,9 | **23,9** |
| Маянэз | 250 г | 13 | **18** |
| Кава "Пеле" | 100 г | 65 | **68** |
| Шпроты, бляшанка | 160 г | 23 | **22** |
| Соус там. "Мінскі" | 0,5 л | 26,2 | **24** |
| Лімоны | 1кг | 58 | **60,7** |
| **СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ** | | | |
| Смятана | 1 л | 30 | **28** |
| Масла | 1 кг | 80 | **75** |
| Тварог | 1 кг | 40 | **30** |
| Малако | 1 л | 8 | **9** |
| Бульба | вядро | 75 | **75** |
| Яйкі курыныя | 1 дзес. | 35 | **30** |

## Базарны дзень — чацвер

**ВІЛЕЙКА.** У сувязі з ростам вострых кішэчных захворванняў (дызентэрыі, гепатыту, сальманелёзу) з красавіка забараняецца гандаль мяснымі, рыбнымі, малочнымі і нефасаванымі прадуктамі, а таксама маянэзам, маргарынам і алеем на рынку, размешчаным на плошчы Леніна і на так званай "Хітрушцы". Цяпер гэтымі прадуктамі можна гандляваць толькі на калгасным рынку па вул. 1 Мая – яго нанова адрамантавалі. Новы "стары" рынак працуе па чацвяргах і нядзелях з 6 да 13 гадзін, у астатнія дні - з 9 да 15, выхадны - панядзелак.

На тэрыторыі рынку знаходзіцца ветэрынарны ўрач, лабараторыя для кантролю за якасцю прадуктаў, мясны павільён, пункт пракату вагаў. А таксама бар "Несцерка", дзе можна выпіць асвяжальнага напою ці сагрэцца кубачкам кавы.

***Ігар КІЦІКАЎ.***

## Дробнарознічны гандаль забаронены

**МАЛАДЗЕЧНА**. Рашэннем гарвыканкома з 27 красавіка прыпыняецца гандаль выязны і ў кіёсках. Нават "белсаюздрукаўскіх".

Арганізацыям і прадпрымальнікам улады даюць час, каб яны да 20 мая прывялі ў парадак месцы, дзе прадаюць сваю розніцу. Гэтыя пункты характэрныя ржавымі кіёскамі, бруднымі палаткамі, смеццем вакол іх, прадаўцамі нападпітку. Пасля ўхілення недахопаў загадчык аддзела гандлю гарвыканкома і галоўны архітэктар падпішуць карту допуску да гандлю.

Намеснік старшыні гарвыканкома **Яфім Ідэльчык** зазначыў:

– Будзем змагацца за чысціню горада. Дарэчы, да 27 чысла ёсць час – некаторым кіёскам можна і не закрывацца.

На пытанне аб пераносе кіёскаў па вул. Талстога ля харчовага рынку ён запэўніў, што мера гэтая часовая і пасля добраўпарадкавання тэрыторыі іх вернуць на месца.

***Дзмітрый ХАРЫТОНАЎ.***

## Дацягнуць да канікулаў

**МАЛАДЗЕЧНА**. Сталоўкі сярэдніх школ запрашаюць дзяцей падсілкавацца. Беларуская гімназія прапануе наступны асартымент:

***Бясплатны сняданак (з разліку 4700 руб.)***

1. Маннік з павідлам 100/10 .................... - 3100 руб.
2. Чай з цукрам 1/200 .................... - 900 руб.

***З даплатай 4 тыс. руб.***

1. Кілбаса вараная 1/50 .................... - 6800 руб.
2. Каша грэцкая вязкая 1/100 .................... - 1400 руб.
3. Чай з цукрам .................... - 900 руб.

***Абед першакласніка***

1. Суп малочны 1/250 .................... - 2100 руб.
2. Сырнікі з тварагу 100/10 .................... - 5200 руб.
3. Кававы напой .................... - 1200 руб.

***Бясплатнае харчаванне***

***Хворыя дзеці (сняданак)***

1. Салата з буракоў 1/50 .................... - 700 руб.
2. Кілбаса вар. 1/50 .................... - 6800 руб.
3. Каша грэцкая 1/100 .................... - 1400 руб.
4. Сок яблычна-журавінны 1/200 .................... - 6000 руб.

***Хворыя дзеці (абед)***

1. Салата .................... - 700 руб.
2. Суп малочны .................... – 2100 руб.
3. Сырнікі з павідлам .................... - 5200 руб.
4. Сок яблычны .................... - 7600 руб.

***Дзецям з маламаёмных сем'яў***

1. Салата з буракоў 1/50 .................... - 700 руб.
2. Кілбаса 1/50 .................... - 6800 руб.
3. Каша грэцкая 1/100 .................... - 1400 руб.
4. Хлеб з маслам 10/20 .................... - 1500 руб.
5. Чай з цукрам .................... - 900 руб.

***Вольга ПАСЛЕД.***

КРАЯЗНАЎСТВА

# Волакі

***Дрэнны стан дарог з прычыны адсутнасці пакрыцця, разгалінаванасць рэк, вялікая колькасць азёраў і балот, зімовыя заносы, веснавыя паводкі, якія амаль да сярэдзіны лета затаплялі поймы рэк, восеньскае бездарожжа амаль да 17 стагоддзя вымушалі нашых продкаў карыстацца воднымі шляхамі. Важнай часткай іх з'яўляўся волак - старaславянская назва месца найбольшага збліжэння дзвюх суднаходных рэк, дзе найзручнейшым шляхам рачныя судны перацягвалі (валаклі) на катках па сушы з аднаго воднага басейна ў другі.***

Звычайна адлегласць паміж крайнімі пунктамі волака не перавышала 10 кіламетраў. Волакі маглі выкарыстоўвацца ў перыяд навігацыі (з вясны да восені) рэгулярна ці зрэдку, у абодвух напрамках руху ці ў адным, што залежала ад зручнасці перамяшчэння і прыроднага рэльефу мясцовасці, наяўнасці схілу на водападзеле, балатоў, азёр.

Волакі, як правіла, былі даволі густа для свайго часу заселеныя, на іх склаўся асаблівы від гаспадарчай дзейнасці. Насельніцтва волакаў, ці валачане, зарабляла на жыццё перавозкай грузаў і іх абслугоўваннем. Валачане валодалі інвентаром для перавозкі рачных суднаў па зямлі, якога купцы не мелі. Акрамя таго, для гэтага патрабаваліся шматлікія прыстасаванні: каткі для выцягвання суднаў на бераг, канаты, валакушы, колы для перавозкі невялікіх суднаў і тавараў, цяглавая жывёла. Гэта рабіла валачан незалежнымі і прыносіла ім значны прыбытак. Кіраваў волакам волацкі цівун. Гэта была афіцыйная асоба, якая па даручэнні князя збірала за праезд праз волак спецыяльны грашовы падатак.

Калі зазірнуць на картасхему, можна ўбачыць, што на тэрыторыі нашага рэгіёна знаходзіліся аж тры волакі.

Першы волак злучаў Мядзелку (басейн Заходняй Дзвіны) з Нарачанкай (басейн Віліі) і размяшчаўся паміж азёрамі Мядзел і Мястра, аб чым сведчыць назва вёскі Волачак - гэта значыць, невялікі волак, і на самай справе, яго даўжыня ўсяго 2 кіламетры.

Другі, даўжынёй у 6 кіламетраў, злучаў раку Нявежа (басейн Віліі) з ракой Бярэзіна (басейн Нёмана). Пацверджаннем таму з'яўляецца ўрочышча Чырвоная Валока каля вёскі Капачы Маладзечанскага раёна. Чырвонай яна стала пасля 1433 года. Тады там сышліся войскі Свідрыгайлы Альгердавіча, якія прыплылі з Полацка, і Жыгімонта Кейстутавіча, якія прыбылі з Ашмянаў. Яны тады вялі вайну за ўладу. Сутычка аказалася такой крывавай, што ўся даліна, дзе вялася бойка, была ўсеяная трупамі. Тое месца ў людской памяці жыве ўжо некалькі стагоддзяў як Чырвоная Валока.

Яшчэ адным дадатковым пацверджаннем існавання волака ў гэтым месцы з'яўляецца сама назва вёскі Капачы - адкапаць, зрываць перашкоды на волаку, або паглыбляць мелкаводдзе ракі.

Нярэдка на месцы волака сустракаюцца рэшткі старажытных паселішчаў і курганныя магільнікі, якія належалі насельніцтву, што абслугоўвала волак, а таксама знаходзяць грашова-рэчавыя скарбы, захаваныя гандлярамі або мясцовымі жыхарамі ў час небяспекі. У 1915 годзе на тэрыторыі старажытнага паселішча каля вёскі Дамашы, якая з'яўляецца другім краем волака паміж Нявежай і Бярэзінай, быў знойдзены скарб старажытных рымскіх манет (гл. картасхему).

Трэці волак, а дакладней, волакі, размяшчаліся паміж Вязынкай (басейн Віліі) і Свіслаччу (басейн Дняпра), а таксама паміж Бярэзінай (басейн Нёмана) і Свіслаччу (басейн Дняпра). Пацверджаннем з'яўляецца вёска Волакі Маладзечанскага раёна. Назва ў множным ліку сведчыць аб тым, што волакаў было некалькі.

Такім чынам, карыстаючыся гэтымі волакамі, можна было дабрацца да любога значнага горада таго часу (гл. картасхему).

Водныя шляхі таго часу былі даволі небяспечныя. Вялікая колькасць лясоў, балатоў, слабая заселенасць тэрыторыі, простыя, але і суровыя звычаі і норавы таго часу стваралі ўмовы для існавання рабаўнікоў і разбойнікаў.

Прыклад можна знайсці на карце. Вёска Рабунь Вілейскага раёна знаходзіцца на правым беразе Віліі. А злева (да будоўлі вадасховішча) у яе ўпадала рака Ілія, прыносячы з вадой пясок і іл, якія ўтваралі касу каля левабярэжжа. Каб абагнуць яе, трэба было прыціснуцца да правага берага Віліі (гл. малюнак), дзе і чакалі рабаўнікі. Адсюль і назва Рабунь - рабаваць, грабіць.

А волакі, дзе тавары перавозіліся па сушы, былі ідэальным месцам для рабаўніцтва. Таму кожны волак знаходзіўся пад аховай дружыны, якая размяшчалася ў замку. Замкі будавалі непадалёку ад волакаў, што добра відаць на картасхеме.

З гэтага артыкула можна зрабіць вывад, што гарады нашага рэгіёна: Мядзел, Маладзечна, Радашковічы, Заслаўе - узніклі на старажытных волаках.

***Ігар КІЦІКАЎ.***






